www.nv-online.info

№ 25 (4072)

1 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЛІЧБА ДНЯ

## 4 тысячы 30 долараў

Столькі на кожнага беларуса прыпадае знешняга доўгу краіны.

Паводле дадзеных Нацбанка, абсалютны памер валавога знешняга доўгу Беларусі на 1 студзеня 2016 года склаў 38,275 млрд долараў. Гэта менш, чым было год таму – 40,024 мільярда. Але 10 гадоў таму наша краіна мела пазыкаў усяго толькі на суму 5–7 млрд долараў.

СТРАТА

# Бывай, Народны Паэт...

**29 сакавіка на 85-м годзе жыцця перастала біцца сэрца слыннага сына роднай зямлі, няўрымслівага барацьбіта за Беларушчыну Ніла Сымонавіча Гілевіча.**

## Смуткуем...

Адышоў у лепшы свет народны паэт Беларусі Ніл Сымонавіч Гілевіч.

Нарадзіўся ён 30 верасня ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне ў сялянскай сям'і. У 1938 годзе пачаў вучыцца ў вясковай сямігодцы, але школьныя заняткі надоўга перапыніла вайна. З роднай вёскі пайшоў вучыцца ў Мінск, дзе набыў адукацыю настаўніка ў педагагічнай вучэльні, а ў 1956 годзе скончыў і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Ужо ў студэнцкі час Ніл Гілевіч выбраў сабе жыццёвую дарогу, якая вызначыць ягоны творчы лёс: літаратурная і навукова-педагагічная. Надрукаваўшы першыя вершы яшчэ ў 1946 годзе ў часопісе "Бярозка", ва ўніверсітэцкія гады ён актыўна ўключаецца ў літаратурны рух, публікуе творы ў часопісах "Полымя", "Беларусь", "Маладосць", "Вожык". У 23 гады студэнт-філолаг Ніл Гілевіч становіцца сябрам Саюза пісьменнікаў БССР. У 1957 годзе выходзіць першая ягоная паэтычная кніга "Песня ў дарогу". З гэтага часу Ніл Гілевіч становіцца жаданым госцем у рэдакцыях літаратурных выданняў і выдавецтвах мастацкай літаратуры: за 70 гадоў творчай працы Ніл Гілевіч выдаў каля ста кніг паэзіі, перакладаў, крытыкі і публіцыстыкі. У 1980 годзе за кнігу паэзіі «У добрай згодзе» і перакладчыцкую дзейнасць Ніл Сымонавіч стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Ён таксама ўзнагароджваўся ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, медалём Францішка Скарыны, балгарскім ордэнам "Кірыл і Мяфодзій" I ступені, ордэнам Югаслаўскай зоркі са стужкай.

Адначасова з літаратурнай працай Ніл Гілевіч шмат працуе ў галіне літаратуразнаўства, адкрываючы нанова паэзію 1920-х гадоў. Яго манаграфія "Акрыленая рэвалюцыяй (паэзія "Маладняка")" становіцца асновай кандыдацкай дысертацыі, абароненай у 1963 годзе. У той жа час увагу яго прыцягвае навуковае вывучэнне беларускага фальклору, якому прысвечаны кнігі "Паэтыка беларускай народнай лірыкі", "Паэтыка беларускіх загадак". З 1960 года Ніл Сымонавіч – выкладчык, з 1968-га – дацэнт, з 1978-га – прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта: выкладчык фальклору, кіраўнік фальклорных практык, дыпломных і кандыдацкіх прац студэнтаў і аспірантаў. Ён жа ўкладальнік і навуковы рэдактар фальклорных зборнікаў «Песні сямі вёсак» (1973), «Песні народных свят і абрадаў» (1974), «Лірычныя песні» (1976), «Лірыка беларускага вяселля» (1979), «Народныя казкі, байкі, апавяданні і мудраслоўі» (1983).

Працаваў Ніл Гілевіч і ў галіне перакладу і стаўся найгалоўнейшым папулярызатарам балгарскай літаратуры ў Беларусі. У яго перастварэнні з балгарскай выйшлі творы П.Вежынава, С.Даскалова, Н.Вапцарава, Хр.Радзеўскага, Г.Джагарава, Л.Леўчава, Х.Боцева, І.Вазава, П.Яварава, Н.Вылчава, А.Германава, І.Давыдкава, Д.Методзіева, А.Стаянава, зборнік «Балгарскія народныя песні» (1961), анталогія сучаснай паэзіі «Ад стром балканскіх» (1965) і іншыя. Перакладаў таксама з рускай, славенскай, украінскай, польскай, сербскахарвацкай, лужыцкай моў.

Шмат гадоў паэт прысвяціў кіраванню рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыяй. У 1976–1990 гг. ён член прэзідыума, у 1980–1989 гг. – першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў. У гэты ж час Ніл Сымонавіч становіцца адным з самых прыкметных публіцыстаў, талент ягоны на поўную моц раскрываецца ў час перабудовы і свабоды слова, у час паўставання незалежнасці. Ён адзін з заснавальнікаў і першы старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (1989–1997). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1985–1990). У 1990 г. абраны народным дэпутатам БССР. Сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. З чэрвеня 1990 г. – старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Ніл Гілевіч – адзін з асноўных творцаў закона "Аб мовах", які надаў рэальны дзяржаўны статус беларускай мове і спрычыніўся да актыўнай беларусізацыі ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця незалежнай Беларусі ў першай палове 1990-х гадоў.

У другой палове 1990-х, пасля змены палітычнага курсу і знішчэння заваёў часу беларусізацыі, Ніл Гілевіч шмат выступаў у незалежным друку ў абарону беларускай мовы і культуры, быў сталым аўтарам часопіса "Дзеяслоў", газет "Народная Воля", "Літаратурная Беларусь". За сваю пенсію, без дапамогі дзяржавы, ён выдаў 23 тамы збору твораў, апошні том якога выйшаў у 2013 годзе.

Ніл Сымонавіч пражыў насычанае, поўнае грамадскай і творчай працы жыццё, ён цалкам рэалізаваў сябе як выдатны паэт і аўтар папулярных песень, як палітык і публіцыст, як перакладчык і даследчык-фальклрыст, не толькі атрымаў пачэснае званне народнага, але і заслужыў сапраўдную шчырую любоў і прызнанне беларусаў усяго свету.

Рада ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" шчыра смуткуе з прычыны сыходу Ніла Сымонавіча Гілевіча і выказвае спачуванні родным і блізкім. Імя Вялікага сына Беларусі назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

**Валянціна Аксак**
**Эдуард Акулін**
**Уладзімір Арлоў**
**Ірына Багдановіч**
**Лявон Баршчэўскі**
**Анатоль Бароўскі**
**Пятро Васючэнка**
**Анатоль Вярцінскі**
**Юрка Голуб**
**Леанід Дайнека**
**Генрых Далідовіч**
**Леанід Дранько-Майсюк**
**Валянцін Дубатоўка**
**Галіна Дубянецкая**
**Алесь Жук**
**Віктар Жыбуль**
**Сяргей Законнікаў**
**Васіль Зуёнак**
**Віктар Казько**
**Віктар Карамазаў**
**Галіна Каржанеўская**
**Настасся Лазебная**
**Хрысціна Лялько**
**Леанід Маракоў**
**Алесь Масарэнка**
**Іван Мельнічук**
**Уладзімір Някляеў**
**Алесь Пашкевіч**
**Барыс Пятровіч (Сачанка)**
**Алесь Разанаў**
**Міхась Скобла**
**Юры Станкевіч**
**Кастусь Цвірка**
**Мікола Яцкоў**



## Імёны паэтаў не акантоўваюць жалобнымі рамкамі

*І гэта правільна. Пакуль мы чытаем іх вершы, яны жывыя, яны побач з намі.*

**Георгій ГАЦКЕВІЧ.**

## Дзе можна развітацца?

Пахаванне Ніла Гілевіча адбудзецца сёння, 1 красавіка.
Хто хоча развітацца з Нілам Сымонавічам, прыходзьце ў царкву Пятра і Паўла на Нямізе.
З 11.00 да 13.00 – развітанне.
З 13.00 па 14.00 царкоўная паніхіда.
З 14.00 да 15.00 – грамадзянская паніхіда.
У 15.00 – пахаванне на Кальварыйскіх могілках.

## Па кім звоніць звон...

Ну так, найперш па ім. Ды і па ўсіх нас, па яго блізкіх і родных, па яго сябрах, таварышах і паплечніках, па ўсіх тых беларусах, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, лёс яе мовы, яе культуры, яе гістарычнай спадчыны. Яно і зразумела. Бо ён, Ніл Гілевіч, творца і грамадзянін з вялікай літары, быў сімвалам і адначасна рэальным увасабленнем нашай беларускай справы. Услед за словамі-паняткамі "талент", "мастацтва слова", "мастэрства" тут натуральна, самі сабой выстройваюцца азначэнні самага высокага стылёвага ладу: Боскае пакліканне, падзвіжніцкае, пасіянарнае служэнне, самаахвярная праца на "алтар паэзіі, праўды, Бацькаўшчыны" (яго словы).

У сваёй прадмове да яго кнігі "Святлынь" Васіль Быкаў пісаў пра "высакароднасць погляду на свет і жыццё". Высакароднасць погляду ў дадзеным выпадку праяўляюцца найперш у нацыянальным самасцвярджэнні, у клопаце пра тое, каб беларускі дом, беларускую дзяржаву будаваць на грунце нацыянальнага чынніка, фундаментальных этнічных каштоўнасцяў. Думаю, я ніколі не перабольшыў, назваўшы ў свой час ягоную знакавую кнігу "Любоў прасветлая" Евангеллем ад Ніла.

Не будзем пытацца ні ў саміх сябе, ні адзін у аднаго: па кім звоніць сёння звон? І без таго, калі яшчэ не ўсведамляем, дык адчуваем у сваіх душах.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**
*У ноч з 29 на 30 сакавіка 2016 года.*

Сяргей ЗАКОННІКАЎ, паэт, публіцыст:

## «Ніл Гілевіч – мой настаўнік»

– Для мяне Ніл Сымонавіч Гілевіч – гэта настаўнік. Не толькі ў пераносным сэнсе як літаратар, але і ў прамым. Памятаю далёкі 1964 год, калі першыя лекцыі на філалагічным факультэце нам чытаў малады, з выдатнай чупрынай Ніл Гілевіч. Дзяўчаты-аднакурсніцы, ды і я сам, слухалі яго з захапленнем. Ніл Сымонавіч быў вельмі дасведчаны ў фальклоры. Памятаю, прасіў студэнтаў запісваць у сваякоў песні. Я запісаў у сваёй бабулі на Віцебшчыне рэдкую песню, якую Гілевіч не ведаў. Як ён узрадаваўся!

Ніл Сымонавіч праявіў сябе як паэт, вучоны, гумарыст. Але асабліва – як змагар за беларускую мову, за нацыянальную сімволіку.

Мы сустракаліся з Гілевічам у розных сітуацыях, ездзілі разам у камандзіроўкі. Аднойчы паехалі ўдваіх у Маскву на пісьменніцкі пленум. Атмасфера такая, што пісьменнікі драмалі нават у прэзідыуме. Праз пэўны час кажу Гілевічу: "Больш не магу". Ён мне адказвае: "Ты ідзі, а я тут пасяджу". Выйшаў я з залы і сустрэў Віктара Астафьева. "Што, беларус, надакучыла? – спытаў ён. – Сядай, пагаворым". Прайшло крыху часу – і да нас далучыўся Гілевіч. Астафьеў стаў літаральна з пяшчотай распытваць у нас, як там жыве Васіль Быкаў, з якім ён быў у вельмі добрых стасунках. Мне добра запомнілася тая размова: я быў у цудоўнай кампаніі з выдатнымі творцамі.

У апошнія гады мы часта стэлефаноўваліся з Гілевічам, маглі пагаварыць па самых розных пытаннях. Ніл Сымонавіч чытаў маю калонку ў газеце "Свободные новости плюс". Рады, што ў мяне быў такі цудоўны чытач, які мог падбадзёрыць.

Віктар КАЗЬКО, пісьменнік, лаўрэат Дзяржпрэміі:

## «Адышоў апошні з магікан»

– Што я адчуваю? Сум. Сум. Сум. У Год культуры адыходзіць культура і літаратура. Адышоў апошні з магікан, волат беларускай літаратуры, апошні з прадстаўнікоў свайго пакалення, да голасу якога прыслухоўвалася ўся Беларусь. Мне скрушна ад адчування таго, што гэтую страту не замясціць. На Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна і Ніла Гілевіча раўняліся. А цяпер раўняцца і азірацца няма на каго.

Сусветная літаратура (у тым ліку беларуская) хворая. Яна адышла ад чалавека. А вось Ніл Гілевіч у сваёй творчасці заўжды трымаўся чалавека, зямлі, бацькоў. У апошнія гады ён ажыццявіў подзвіг, які аказаўся не па сілах нікому. Гілевіч сабраў і выдаў уласны збор твораў на сваю жабрацкую пенсію. Гэта адчуванне абавязку перад айчыннай літаратурай і сваёй радзімай. Нам застанецца сумаваць па ім і памятаць.

*(Працяг на 6-й стар.)*

НУ І НУ!

## На сардэчныя кроплі хопіць

*Беларусы старэйшыя за 80 гадоў атрымаюць дадатак да сваёй пенсіі ў памеры 12 тысяч рублёў, а тыя, чый узрост складае ад 75 да 80 гадоў, – 9 тысяч!*

Такое павышэнне стала магчымым таму, што з 1 сакавіка па 30 красавіка ўстаноўлены новы бюджэт пражытачнага мінімуму (адпаведны ўказ з'явіўся 25 сакавіка). БПМ складае цяпер 1 млн 640 тысяч рублёў, што больш ранейшага памеру ўсяго толькі на 3,1%. Аднак гэта не перашкаджае чыноўнікам афіцыйна заяўляць, што БПМ перагледжаны «*ў мэтах забеспячэння дадатковай абароны сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян*». Што тычыцца пажылых беларусаў, то такой "абароны" ім хопіць хіба што на сардэчныя кроплі. У лютым пенсіянеры, якім за 80, атрымлівалі дадаткова к пенсіі 397 тыс. 828 рублёў, а цяпер будуць мець 410 тысяч даплаты (25% БПМ). Розніца складзе крышку больш за 12 тысяч. Пенсіянеры ва ўзросце ад 75 да 80 гадоў мелі даплату ў 298 тысяч 371 рубель, а зараз даплата да пенсіі 307 тысяч 500 рублёў. Дадатак – смешна сказаць – 9 тысяч рублёў! Флакон карвалолу сёння яшчэ за такія грошы купіць можна, хаця ў некаторых аптэках яго прапануюць ужо і за 20 тысяч і болей.

ДАРЭЧЫ

## Якія выплаты яшчэ пералічаць

Ад бюджэту пражытачнага мінімуму залежаць адначасовыя дапамогі і сацыяльныя пенсіі.

Так з 1 сакавіка за нараджэнне першага дзіцяці будуць плаціць 16 млн 400 тысяч, за другога і наступных дзяцей – 22 млн 960 тысяч рублёў. Дапамога на дзіця, старэйшае за тры гады, складзе 820 тысяч рублёў. Дзеці-інваліды да 18 гадоў атрымаюць ад 1 мільёна 312 тысяч да 1 мільёна 804 рублёў дапамогі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СТОП-КРАН

## Прыехалі!

*Судовыя выканаўцы наклалі арышт на "Фальксваген" Анатоля Лябедзькі.*

У апошні час старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі рэгулярна штрафавалі за ўдзел у розных акцыях пратэсту, але штрафы той прынцыпова не плаціў.

"*Толькі ў гэтым годзе разгледзелі ўжо пяць адміністрацыйных спраў на мяне*, – распавёў **Анатоль Лябедзька**. – *І ў мінулым годзе, напэўна, каля дзесяці такіх спраў назбіралася. Калі ўлічваць, што апошнія штрафы былі амаль па 10 мільёнаў, то за ўвесь час ужо павінен заплаціць больш за 100 мільёнаў рублёў*".

Учора палітык паведаміў, што судовыя выканаўцы пастанавілі "*накласці арышт і затрымаць транспартны сродак, які належыць Лябедзьку Анатолю Уладзіміравічу*".

"*Вось так раптам твой надзейны жалезны сябра ўжо ў вышуку, а можа быць, затрыманы і арыштаваны*, – пракаментаваў Анатоль Лябедзька вышэйзгаданае рашэнне судовых выканаўцаў. – *Фіскальныя органы наклалі галодны погляд на мой "Фальксваген"*".

У пастанове напісана, што яна падлягае тэрміноваму выкананню, аднак можа быць абскарджана ў тэрміны, якія вызначаны законам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

